PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 3 (1862) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 19 СТУДЗЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.

## АСАЦЫЯЦЫЯ ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ БЕЛАРУСІ

У прыгожай зале Саюза беларускіх пісьменнікаў у Менску 29 і 30 лістапада1991 г. была праведзена ўстаноўчая канферэнцыя фальклярыстаў Беларусі. Галоўная мэта канферэнцыі заключалася ў аналізе стану беларускага фальклоразнаўства і стварэнні Асацыяцыі, якая каардынавала б дзейнасць усіх беларускіх фальклярыстаў не толькі ў Беларусі, але таксама па-за яе межамі, усюды там, дзе жывуць беларусы і дзе існуе рух збору фальклору або яго навуковага вывучэння. Якраз з гэтых прычын быў на канферэнцыю запрошаны і я.

Канферэнцыю адкрыў вядомы беларускі фальклярыст А. Фядосік, які прадставіў галоўныя мэты сходу. З праграмным дакладам выступіў загадчык фальклорнай лабараторыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце Васіль Ліцьвінка, які ахарактарызаваў стан беларускага фальклоразнаўства. Дакладчык заняўся таксама ацэнкай ступені захавання беларускага фальклору ў паасобных раёнах Беларусі з асаблівай увагай да фальклору Палесся. Ліцьвінка пераканаўча даказаў,што не маюць рацыі тыя даследчыкі, якія лічаць, што фальклор вычэрпваецца і што ў сувязі з гэтым фальклоразнаўчыя даследаванні ў паасобных раёнах і вёсках трацяць сэнс. Дакладчык прывёў пераканаўчыя доказы на тое, што фальклор гэта не толькі застылы рэлікт культуры мінулага, але жывы культуратворчы фактар сучаснасці. На думку Ліцьвінкі, далёка не ўсе не толькі песенныя ці казачныя тэксты запісаны фальклярыстамі, але не пазнаны імі таксама многія старынныя абрады, якія маюць велізарнае значэнне для працэсу пазнання беларускай этнікі. Ліцьвінка моцна падкрэсліў значэнне фальклору ў працэсе нацыянальнага беларускага адраджэння. Даказваў, што народ, які стварыў такую багатую песенную, казачную, абрадную культуру, якая яго выдзяляе сярод славянскіх нацый і народаў свету, поўнасцю заслугоўвае на самастойнае дзяржаўнае існаванне. Дакладчык сказаў, што працэс поўнага нацыянальнага адраджэння будзе складаны і цяжкі, але да яго канчатковай удачы можа надта прычыніцца разумна выкарыстаны фальклор.

Дыскусію давялося пачаць мне. У сваім слове стараўся я сказаць аб тым, што Асацыяцыя фальклярыстаў Беларусі не павінна забываць аб фальклоры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, якая павінна стацца аб'ектам сістэматычнага вывучэння і публікацыі так званай народнай гісторыі, гэта значыць народнай інтэрпрэтацыі мінулага, сучаснага і будучага, а таксама інтэрпрэтацыі такіх паняццяў як дабро і зло, як любоў і нянавісць, як ацэнка

( Працяг на стар. 8 )



Родныя краявіды. Рака Нараўка. **Фота Я. Целушэцкага.**

## БОЛЬШ КАНТРОЛЮ - БОЛЬШ ПАРАДКУ

23 снежня мінулага года ў памяшканні Беларускага музея ў Гайнаўцы мела месца сустрэча прадстаўнікоў Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў асобах сакратара ГП Валянціны Ласкевіч і намесніка старшыні Янкі Сычэўскага з актывам Гайнаўскага аддзела таварыства і з Грамадскім камітэтам пабудовы музея.

Сустрэча была назначана на пятую гадзіну вечара. Нягледзячы на тое, што зімою ў такую пару дня ўжо зусім цёмна, а новабудаваныя аб'екты музея пакуль без асвятлення, Кастусь Майсеня павадзіў гасцей з Беластока па змрочных пакоях, калідорах і падвалах, паказваючы, як ідзе будова.

Першым у сустрэчы слова ўзяў Сяргей Харкевіч, які ад імя гайнаўлян прывітаў прадстаўнікоў ГП. Спаткаліся мы тут на тое, каб лепш разумець адзін другога, каб жыць і працаваць у згодзе, сказаў ён. Часта чуем, што БГКТ нічога не робіць — не без віны тут наша прэса і радыё, — але ж гэта няпраўда. Можа, не заўсёды відаць нашу дзейнасць навонкі, але праца вядзецца.

Дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя Васіль Дамброўскі звярнуў увагу, што наша асяроддзе, нашы арганізацыі зусім занядбалі школьніцтва. Не маем прадстаўнікоў у камісіях, якія назначаюць дырэктараў школ. Ніхто з дзеячоў дагэтуль не пацікавіўся лёсам будовы новага ліцэя ў Гайнаўцы. А гэта ж справа не менш важная за музей.

Намеснік старшыні БГКТ Янка Сычэўскі падзякаваў за запрашэнне ў Гайнаўку. „Мы толькі нядаўна былі выбраны на кіраўнічыя пасады ў таварыстве, таму нам вельмі важна пачуць вашы думкі і меркаванні наконт супольнай дзейнасці, — падкрэсліў ён. — А беларуская дзейнасць на Беласточчыне можа быць прыкладам для цэлага свету — доказам гэтага захапленне амерыканскіх беларусаў нашым рухам, пабудовай музея. Нам цяпер трэба думаць пра тое, каб мець аргументы ў размовах з уладамі. Што датычыцца асветы, дык лепш кантактавацца з міністэрствам, чымсьці з непрыхільным нам куратарам.

Некаторыя справы можна аформіць праз Сейм — я спаткаўся з паслом Ежы Кананем (Дэмакратычная унія) дзеля падрыхтоўкі рапарту пра беларускую нацыянальную меншасць. Можна таксама звярнуцца да пасла Яўгена Чыквіна. Завязваюцца больш цесныя сувязі з урадам Беларусі. З таго боку можам чакаць дапамогі школьніцтву, мастацкім калектывам, музею.

Янка Хіліманюк патрабаваў насвятлення сітуацыі ў БГКТ пасля персанальных зменаў у кіраўніцтве. Паводле яго, Рада беларускіх арганізацый узурпавала сабе выключнасць на выступленні ад імя беларусаў Беласточчыны ў перамовах з прадстаўнікамі Беларусі. Гэта ж заданне БГКТ, яно павінна вярнуць сабе страчаную пазіцыю. Спадар

( Працяг на стар. 3 )

## У ЕЎРОПЕ НЯМА ЗАДВОРКАЎ

*Беларусь і супольнасць з іншымі рэспублікамі — гэта асноўнае пытанне, якое хвалюе беларускія эліты. СССР ужо няма. Стварылася СНД, але сёння, у святле апошніх падзей, цяжка прадбачыць яе лёс, і таму гэтае пытанне не страціла актуальнасці. Чытачам прапануем поўны палемічны тэкст Уладзіміра Коласа, які быў надрукаваны (у скарочанай рэдакцыяй форме) у менскай „Народнай газеце" ад 25 кастрычніка м.г.*

Яшчэ каля тысячы гадоў таму святы Аўгусцін слушна заўважыў: „Калі сутнасць прадмета, дзеля якога словы ўжываюцца, ясная, то пра словы спрачацца ня трэба". Зноў успомніць пра гэтую ісціну прымушае палеміка, якая разгарнулася апошнім часам на старонках „Народнай газеты" вакол праблемы „Беларусь — СССР", асабліва апошні артыкул „Не гаруйце, нехлямяжныя беларусы..." („Н.г." 1 кастрычніка 1991 года), аўтар якога спадар А. Майсеня, перайшоўшы, дарэчы, на неблагую беларускую мову, з чым яго і віншуем, раптам заяўляе: „Што можа мяне аддзяляць ад лідэра БНФ, калі ён, са слоў спадара А. Трусава, „лічыць, што Саюза няма і ніколі, у такім выглядзе як быў, не будзе. Я магу толькі падпісацца пад гэтым". (!) Ну і добра. Тут бы яму і спыніцца. Але не! Згаджаючыся з лідэрамі БНФ па сутнасці, спадар Майсеня, не звяртаючы ўвагі на параду мудрага святога, зачынае доўгую і зласлівую спрэчку пра словы. Што ж, у нас пяпэўны і супярэчлівы час і святыя могуць памыляцца. Паглядзім, якія менавіта словы не падабаюцца шаноўнаму спадару Майсеню. Вось, напрыклад, „незалежнасць" і „дэмакратыя". Якія перуны і маланкі, якія шышкі пасыпаліся на галаву А. Трусаву, калі ён проста дазволіў сабе канстатаваць, што з Савецкага Саюза на гэты час ужо выйшлі і абвясцілі пра сваю незалежнасць рэспублікі Прыбалтыкі, Грузія, Малдова. Ужо на што, як кажуць, Азербайджан, але і ён... Гэтай стрыманай канстатацыі дастаткова, каб выклікаць у спадара Майсені шалёную буру гневу. З пракурорскім пафасам абвінавачвае ён А. Трусава ў імкненні да „незалежнасці любой цаной, да незалежнасці „über alles" (!!). Бяру падшыўку і яшчэ раз чытаю артыкул А. Трусава („Н.г." 21 верасня 1991 г.). Так і ёсць. Нідзе не заклікае ён да „незалежнасці über alles". Ды і ніколі тыя, хто ведае Трусава па яго кнігах, артыкулах, выступленнях па тэлебачанні і на сесіях Вярхоўнага Савета Беларусі, не паверыць, што ён здольны на гэтыя і іншыя глупствы, якія імкнецца яму „прышыць" шаноўны спадар Майсеня. Але, мяркуючы па імпэту і замілаванню ўласным красамоўствам, з якімі той пляце свае няхітрыя дэмагагічныя карункі, ён упэўнены, што знойдзе прыхільнікаў. І ў гэтым не памыляецца.

Таму — яшчэ крыху пра адавочную сутнасць і траскучыя фразы.

( Працяг на стар. 6 )

**НА МЯЖЫ**

## НЯВЫКАРЫСТАНЫЯ ШАНЦЫ

Частка I

Ідэя набірае фізічнай сілы толькі тады, калі апаноўвае працоўныя масы, калі гэтыя масы часткова змагаюцца за яе, ахвярнічаюць за яе і за яе гінуць. Так, скажам, было з ідэяй незалежнасці Польшчы ў часе лістападовага і студзеньскага паўстанняў, а тым болей у 1918 годзе, калі практычна ўвесь польскі народ удзельнічаў у змаганні за сваю незалежнасць.А было яно так таму, што на працягу ўсяго перыяду, калі Польшча была пазбаўлена незалежнай дзяржаўнасці, палякі пеставалі ў сэрцах ідэю вольнай дзяржавы. Пеставалі яе ў малітвах, у песнях, у легендах і паданнях, урэшце ў праграмах палітычных арганізацый і партый. Жыла гэта ідэя на працягу цэлых стагоддзяў у сямейных традыцыях. Адным са стойкіх абаронцаў ідэі незалежнасці быў заўсёды каталіцкі касцёл, які ніколі не выракся рэзка абрысаванага нацыянальнага аблічча.

А як жа гэта справа выглядае ў нас, у беларусаў? Думаю, што не трэба гэтага нікому даказваць — выглядае яна вельмі дрэнна. Няма ў нас нават мізэрнай часткі таго, што ёсць у палякаў — пачуцця нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай заўзятасці і нацыянальнай гатоўнасці да барацьбы толькі і выключна за сваё роднае. На жаль, заклікаў на вельмі прыгожых штандарах „За вашу і нашу свабоду" беларусы ніколі не выкарыстали для

### АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

сваіх інтарэсаў. Затое суседзі вельмі ўмела выкарыстоўвалі іх для сваіх мэт. Дзіўна гэта тым болей, што ва ўсе апошнія войны беларусы паказалі сябе як стойкія, адважныя жаўнеры. Былі яны салдатамі, якія не хаваліся за чужымі плячыма, праяўлялі выключную мужнасць і падзвіжніцтва. У працэсе вызвалення Польшчы ў 1944—1945 гадах засталося іх у польскай зямлі болей чым 100000 і гэта маса вельмі вялікая, калі параўнаць яе з палякамі, якія аддалі жыццё за сваё вызваленне ў гадах 1939—1945.

А колькі ж беларусаў загінула пад Ленінградам, Сталінградам, Масквой, Кіевам, Будапештам, Прагай? Думаю, што ў адзін мільён не змесціш. Гавару тут выключна аб тых, што гінулі ў непасрэдных баях з гітлераўцамі, а не аб усіх тых, якія загінулі ў часе вайны, бо вядома, што ўсіх загінула каля двух з паловай мільёнаў.

І што ж мы атрымалі за гэтую страшэнную крывавую цану? Атрымалі тое, што ў найбольшых заходніх беларускіх гарадах Гародні і Бярэсці, не гаворачы ўжо аб усходніх, не было да нядаўна ніводнай беларускай школы, ніводнага беларускага тэатра і ніводнай беларускай газеты. Атрымалі тое, што ўся адміністрацыя, у тым ліку і калгасная, была пераведзена на рускую мову. Атрымалі тое, што чалавек, які загаварыў у горадзе-герої Менску па-беларуску, станавіўся пасмешышчам і аб'ектам рускамоўных кпін. А як адудзячылася Польшча за тыя 100000 смяротных беларускіх ахвяр? А так, што да 1956 года не дазволіла ўзнікнуць ніводнай беларускай арганізацыі. А і пасля 1956 года на працягу дзесяткаў гадоў нельга было ў „Ніве" або ў „Беларускіх календарах" напісаць такія нявінныя словы, як „беларуская свядомасць", „беларускія нацыянальныя інтарэсы" і, барані Божа: „беларускае вызваленне", „беларуская незалежнасць".

Прэсінг чужынцаў на беларускую духоўнасць быў страшэнны і, трэба сказаць, вельмі эфектны. Падаліся яму ў большасці і беларусы ў БССР і беларусы ў Польшчы. Захавала свой нацыянальны твар толькі заходняя беларуская эміграцыя. Умела выкарыстала яна атмасферу палітычнай свабоды і патрапіла захаваць тое, што складаецца на сутнасць нацыі — мову і гонар.

АЛЕСЬ БАРСКІ

**********************************************************************

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Першы пасёлак для савецкіх салдат**, збудаваны за нямецкія сродкі, здадзены ў карыстанне ў Барысаве (Менская вобласць). ФРГ абавязалася пабудаваць да канца 1994 года 30 тысяч кватэр для салдат з часцей, якія выводзяцца з Нямеччыны.

**Кітай** прызнаў 11 дзяржаўудзельніц Супольнасці Незалежных Дзяржаў і рашыў прытрымоўвацца ранейшых пагадненняў, заключаных з былым СССР. Кітайская дыпламатычная місія падалася ў падарожжа да пяці рэспублік СНД і наведала Беларусь, Украіну, Расію, Узбекістан і Казахстан.

**Партугалія** афіцыйна прызнала восем рэспублік былога СССР: Арменію, Азербайджан, Беларусь, Украіну, Казахстан, Малдову, Туркменістан і Узбекістан. Прызнала яна таксама, што Расія з'яўляецца пераемніцай усіх правоў і міжнародных абавязацельстваў СССР.

**VIII Сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь** пачала працягваць сваю працу ў чацвер 9 студзеня. На разгляд у асноўным ставяцца два пытанні: бюджэт на 1992 год і сельскагаспадарчая рэформа.

**У Менску** 4 студзеня створана арганізацыя ўсіх інвалідаў, якія перажылі чарнобыльскую трагедыю, з мэтай несці ім матэрыяльную дапамогу і збіраць грошы на неабходныя медыцынскія працэдуры. Тэлефанічны кантакт у Менску — тэл. 525-542 і 690-232.

Шаснаццаты ўжо раз прысуджаны прэміі **імя св. Брата Альберта** за выдатныя творчыя дасягненні ў галіне сакральнага мастацтва. Лаўрэатам спецыяльнай (экуменічнай) прэміі стаў пасол **Яўген Чыквін** за ўклад у развіццё праваслаўнага сакральнага будаўніцтва, а таксама за падрыхтоўку і прывядзенне да ўхвалення закона аб адносінах дзяржавы да Праваслаўнай царквы ў Польшчы.

**У Гродне** адкрылася выстаўка карцін **Тамары Тарасевіч** з Белавежы (у канцы мінулага года гэтыя карціны экспанаваліся ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы).

**На чыгуначных станцыях у Семянoўцы і Чаромсе** наглядаецца невялікі таварны рух. Праз Семяноўку возяць розныя дробныя тавары, а праз Чаромху галоўным чынам ідуць ваенныя транспарты з ліквідаваных часцей Савецкай Арміі ў Нямеччыне.

**На гранічных кантрольна-прапускных пунктах людна.** У такой сітуацыі неабходна адкрываць новыя. Праўдападобна, яшчэ ў першым квартале г.г. будзе адкрыты чыгуначны пераход у **Чаромсе** для цягнікоў **Беласток—Брэст**. Ужо амаль гатовы дарожны пункт у **Баброўніках**, але толькі на беларускім баку.

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### РАСПРАГАЙЦЕ, ХЛОПЦЫ КОНЕЙ

Беларускія дэмакраты сур'ёзна рыхтуюцца прыпаднесці ў гэтым годзе парламанту рэспублікі даўнаабяцаны сюрпрыз — правесці новыя выбары ў Вярхоўны Савет на падставе дэмакратычнага закона.

Днямі прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Аб'яднанай дэмакратычнай, Нацыянал-дэмакратычнай і Сялянскай партыі Беларусі, а таксама Хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці і страйкавых камітэтаў заявілі аб неабходнасці правядзення ўсенароднага рэферэндуму па пытанню аб адстаўцы цяперашняга парламента рэспублікі. Праўда, для таго, каб рэферэндум адбыўся, яго завадатарам патрэбна ў двухмесячны тэрмін сабраць у падтрымку не менш 350 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі. Бацькі новай беларускай дэмакратыі настроены вельмі аптымістычна і мяркуюць, што літаральна за месяц ім удасца сабраць дастатковую колькасць подпісаў, а рэферэндум склікаць дзесьці ў сярэдзіне лета.

Кіраўніцтва ж рэспублікі паранейшаму заяўляе, што „коней на пераправе не мяняюць" і адстаўка парламента, а разам з ім і ўрада стане сапраўднай катастрофай для Беларусі.

І ўсё ж дэмакраты на гэты раз настроены вельмі рашуча, і нават калі афіцыйныя ўлады перашкодзяць народу выбраць новы парламент і ўрад, плануюць ствараць паралельныя структуры ўлады — нешта накшталт Грамадзянскага савета ў Чэха-Славакіі.

Так што, можа і сапраўды на пераправе коней давядзецца распрагчы.

### ХТО ПЛОЦІЦЬ, ТОЙ І ПРЫСЯГУ ЗАКАЗВАЕ

Напярэдадні прыняцця прысягі вайскоўцамі Беларускай ваеннай акругі галоўнакамандуючы ўзброеных сіл СНД маршал Шапашнікаў даслаў тэлефанаграму, у якой рэкамендаваў салдатам і афіцэрам, што служаць на Беларусі, прысягаць на вернасць... Расеі. Балазе кіраўніцтва рэспублікі своечасова выявіла гэты падкоп пад суверэнітэт і „забракавала" тэкст прарасейскай прысягі. Мяркуецца, што пасля дапрацоўкі новая прысяга будзе абавязваць вайскоўцаў, якія служаць на Беларусі, быць вернымі толькі ёй, і ніякай іншай дзяржаве.

### І ХОЧАЦЦА, І КОЛЕЦЦА, ДЫ РАСЕЯ НЕ ДАЗВАЛЯЕ

Тэхнічныя затраты на друкаванне беларускіх талераў складуць прыкладна 40 мільёнаў долараў. А для таго, каб увесці сваю нацыянальную валюту, рэспубліцы спатрэбіцца не менш 6—7 месяцаў.

Зрэшты, усё гэта пры жаданні ўрада і парламента рэспублікі. Аднак там лічаць, што беларуская эканоміка яшчэ не падрыхтавана да ўвядзення ўласнай грашовай адзінкі.

Галоўная перашкода на шляху беларускага талера – залежнасць прадпрыемстваў рэспублікі ад Расіі, якая пастаўляе нам сыравіну. У выпадку ж пераходу Беларусі да сваіх грошай, кіраўніцтва Расеі пагражае ўвесці доларавыя цэны на нафту, газ і іншыя прыродныя выкапні. А гэта і сапраўды нам яшчэ не па кішэні.

### ЛЮДЗІ, БУДЗЬЦЕ ПІЛЬНЫМІ!

Народны дэпутат Беларусі Яўген Новікаў, між іншым, актыўны сябра апазіцыі БНФ у парламенце, паведаміў, што валодае звесткамі аб падрыхтоўцы новага дзяржаўнага перавароту. Завадатары перавароту-2 на Беларусі, згодна інфармацыі спадара Новікава, былыя кампартыйныя функцыянеры. І хоць зараз амаль усе яны ціцэй за ваду і ніжэй за траву, народны выбраннік перасцерагае, што камуністычнае падполле дзейнічае і не праміне скарыстаць незадаволенасць людзей непамерна вялікім ростам цэнаў у рэспубліцы.

### СЛОВА — ЗОЛАТА

Адным росчыркам пяра міністр сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь паставіў беларускія газеты і часопісы на мяжу банкруцтва.

З першага студзеня гэтага года ў пяць разоў узрасла плата за дастаўку прэсы, распаўсюджванне па падпісцы — у 4,3 разы, у розніцу — у два разы, паштовыя тарыфы павялічыліся ў адзінаццаць з паловай разоў. Такім чынам, калі парламент рэспублікі не стане на абарону прэсы, то ў бліжэйшы час ад галоснасці на Беларусі нічога не застанецца.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Размова з паслом Яўгенам Чыквінам.
* „Лісты блакітных успамінаў" –першы паэтычны зборнік Юркі Баены.
* Польска–беларускі клуб у Варшаве.
* Мянчанка аб Гайнаўцы.
* Святыя віленскія мучанікі.

# БОЛЬШ КАНТРОЛЮ – БОЛЬШ ПАРАДКУ

( Працяг са стар. 1 )

Хіліманюк пытаў, ці вядзецца падрыхтоўка да з'езда БГКТ. У справе гайнаўскага ліцэя прапанаваў заснаваць грамадскі камітэт пабудовы, бо толькі тады нешта зварухнецца з месца. Неадкладнага ўпарадкавання патрабуюць кантакты з Беларуссю, бо пакульшто адтуль едуць да нас толькі, каб гандляваць. Трэба штосьці таксама думаць пра выдавецтвы, прэсу, неяк яе распаўсюджваць, каб даходзіла да вёсак, да людзей. „Мы замала агрэсіўныя ў сваёй дзейнасці, — гаварыў Янка Хіліманюк, — нам трэба браць прыклад з украінцаў, якія ні на што не глядзяць і нават пераймаюць некаторыя нашы гурткі".

Пра планы дзейнасці штатных працаўнікоў пытаў Мікалай Нікалаюк.

Настаўнік беларускай мовы з гайнаўскага ліцэя Васіль Сакоўскі паказаў на перспектывы для беларускага школьніцтва ў Польшчы. У сённяшняй няпэўнай сітуацыі краіны шанцам для моладзі можа стаць вучоба ў Беларусі. Толькі неадкладна трэба ўпарадкаваць справу накіроўвання нашых выпускнікоў туды. Хто кіруе гэтым, наогул невядома. Беларускае таварыства павінна прысвяціць больш увагі правядзенню розных конкурсаў сярод дзяцей і моладзі. Трэба таксама паклапаціцца аб падручніках, слоўніках для школ.

Аляксандр Іванюк звярнуў увагу на тое, што часта мы не маем аргументаў у дыскусіі з уладамі па сваёй віне. У праграмах дзейнасці паасобных нашых арганізацый няма зыходных пунктаў, гэта якраз адбірае ад нас аргументы, наслабляе наш аўтарытэт. Перад Радай беларускіх арганізацый была вялікая перспектыва, але па віне некаторых людзей страціла яна свой шанц і фактычна ўжо не існуе. Не ўявілі мы свайго пасла, хаця была такая магчымасць, цяпер псуецца клімат. Трэба нам задумацца над планамі і стратэгіяй дзейнасці. Вярнуць кантакт



*У час дыскусіі. Злева: Васіль Дамброўскі, Аляксандр Іванюк, Янка Якімюк і Сяргей Харкевіч.*

дзеячоў з асяроддзямі мястэчак і вёсак. Трэба вярнуцца да добрай традыцыі сустрэч з ліцэямі, няхай спатыкаюцца з моладдзю прадстаўнікі БГКТ, БАСу, журналісты „Нівы". „Ніва" павінна часамі прамоўчваць унутрыбеларускія спрэчкі, не трэба заўсёды браць прыклад з польскага, распалітыкаванага і перасвваранага асяроддзя.

Кастусь Майсеня зазначыў, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства ідзе ўсё ж такі да ўпадку. Цяпер у кіраўніцтве новыя людзі, але скарочваюцца штаты, няма грошай, а што зробіш без грошай. Трэба ажывіць аддзелы, дайсці да кожнага гуртка, кожнага мастацкага калектыву. Выбары мы прайгралі, бо неадказныя адзінкі, якія паставілі свае амбіцыі вышэй за агульную справу, ашукалі моладзь. У далейшым спадар Майсеня гаварыў пра пабудову музея, якую трэба як найхутчэй канчаць. Трэба дамагацца ўжо першых штатаў у музеі, атрымаць назад экспанаты, вывезеныя з белавежскага музея. Пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы паказала, што грамадскасць Гайнаўшчыны вельмі прыхільна ставіцца да беларускай справы — дапамагала ў канкрэтных выпадках транспартам ці працай. Дзякуючы музею абсталявалася таксама пастаянная лучнасць з Рэспублікай Беларусь.

Панцеляймон Мароз сказаў, што нашы беды пачаліся тады, калі натварылася новых партый і арганізацый. Трэба нам усім вярнуцца да БГКТ. Няхай у гэтай арганізацыі ўзнікаюць розныя секцыі або камісіі, але мы ўсе павінны заставацца пад адной традыцыйнай, першапачатковай назвай. І тады нешта зварухнецца наперад, бо цяпер на Гайнаўшчыне ці Бельшчыне, акрамя дзеячоў, цішыня.

Мікалай Нікалаюк звярнуў увагу, што „Ніва" з'яўляецца органам БГКТ, чаму ж яна ўсё крытыкуе гэту арганізацыю. „Хлопцы" ў „Ніве" не чытаюць „Не" Урбана, з гэтага выдання маглі б навучыцца, што сваіх не крытыкуюць.

Янка Хіліманюк запрапанаваў выступіць у „Ніве" з афіцыйнай заявай, што Рада беларускіх арганізацый не прадстаўляе БГКТ. „Якім правам Віктар Стахвюк і іншыя выступаюць публічна ад імя таварыства?" — пытаўся ён.

У канцы сустрэчы, пасля выказванняў гайнаўскага актыву, выступілі прадстаўнікі Галоўнага праўлення. Янка Сычэўскі сказаў, што Гайнаўка гэта вельмі актыўнае беларускае асяроддзе, але на карце Беласточчыны шмат чорных плямаў, дзе ніякіх формаў дзейнасці Беларускага таварыства няма. Гэта будзем выпраўляць, але цяжка гаварыць пра планы, калі не ведаем, на чым сядзімо. На 1992 год Міністэрства культуры ніякіх грошай не абяцае, акрамя датацый на паасобныя мерапрыемствы. Можа, новы ўрад гляне на нас больш прыхільным вокам.

— Нас хвалюе, што няма еднасці ў беларускім асяроддзі, — працягваў Янка Сычэўскі, — некаторыя ўсю актыўнасць засяроджваюць на тым, каб біць сваіх, значыць, другога беларуса. Не ведаем, як знайсці супольную мову з моладдзю. Прыйшлі да нас надаўна прадстаўнікі новастворанай арганізацыі — Згуртавання беларускай моладзі ды заявілі: пабудуйце нам вятрак. Нічога пра свае планы нам не сказалі, ніякія



*Кастусь Майсеня і Панцеляймон Мароз у будаваным музеі.*

аргументы да іх не даходзілі, ну проста прорва між намі.

Усе выпрацаваныя раней формы дзейнасці будуць працягвацца і ў будучыні. Некаторыя гавораць, што толькі прафесіяналізм мае перад сабою перспектывы. Але мы не лічым памылкай нашу стаўку на сама-дзейнікаў. Аматарскія калектывы могуць таксама дабіцца вялікіх дасягненняў. Калі хто хоча стварыць прафесіянальныя структуры, дык калі ласка.

Можна сказаць, што перад намі невясёлыя перспектывы, але, лічу, сітуацыя не безнадзейная, — закончыў сваё выступленне Янка Сычэўскі.

Сакратар ГП Валянціна Ласкевіч дапоўніла яго выказванні. Сказала яна, што пры БГКТ рэанімавалася камісія асветы і пад кіраўніцтвам д-ра Янкі Зенюка падрыхтавала новыя праграмы. Спадарыня Ласкевіч пяснціла, чаму БГКТ выступіла з Рады беларускіх арганізацый. Ёсць шмат спраў, якімі рада павінна была заняцца, але не рабіла гэтага, хаця прадстаўнікі не раз звярталі на гэта ўвагу. Да сённяшняга дня няма прынятага статута рады — гэта нефармальная структура, таму Прэзідыум ГП прыняў пастанову аб выхадзе з рады. Віна напэўна кладзецца тут і на старшыню рады, які не ўмеў арганізаваць працу, памірыць прадстаўнікоў усіх арганізацый.

— Таварыства павінна цяпер аднавіць кантакты з нізавымі звеннямі, якія зусім парваныя, — казала Валянціна Ласкевіч. — Цяжка будзе гэта зрабіць у сітуацыі, калі няма нават грошай на бензін. Маем сігналы ад моладзі з Бельска, што перастае яна чытаць „Ніву", бо спатыкае там толькі ўзаемную грызню ды паклёны. Галоўнае праўленне мусіць нешта вырашыць у гэтай справе. Займецца яно таксама беларускімі перадачамі ў Беластоцкім радыё, — абяцала спадарыня Ласкевіч.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

**Фота аўтара**

## У НАСТАЎНІКАЎ -ЛІТАРАТАРАЎ

Актыўна працуе Настаўніцкі літаратурны клуб пры Акруговай радзе ЗНП у Беластоку. Арганізуе ён таксама супольныя мерапрыемствы з Літаратурным клубам Саюза польскіх пісьменнікаў. Кожны год клуб праводзіць літаратурны семінар і паэтычны конкурс. Ад 1988 года выдае ён часопіс „Najprościej", які рэдагуе калектыў: Яўген Шульборскі, Анна Рамановіч і Казімір Сламінскі.

Настаўніцкі літаратурны клуб выдаў зборнікі вершаў Мечыслава Чайкоўскага, Анны Рамановіч і Яўгена Шульборскага, а таксама зборнікі прозы Збігнева Навіцкага і Анатоля Батуры. У квартальніку „Najprościej" друкаваліся творы членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". У мінулым годзе двойчы была надрукавана лірычная проза Янкі Целушэцкага.

Падчас справаздачна-выбарчага сходу было выбрана новае праўленне Настаўніцкага літаратурнага клуба. Зараз яму старшынствуе Анна Рамановіч, функцыю намесніка старшыні даверылі Анне Ульман-Марчак, а сакратара — Юзэфу Касёру.

**ЯСЕНЬ**

## „Не пашанцавала" і іншыя

Публікуючы ў „Ніве" ад 29 снежня бібліяграфію „Кніжныя выданні „белавежцаў", Ян Чыквін разлічвае на дапаўненні ад зацікаўленых аўтараў.

Вось падмога яму. З маіх кніжак, даволі дакладна занатаваных, прапусціў ён яшчэ чатыры, а менавіта:

— **Не пашанцавала** (п'еса), Беласток 1978;

— **Trzecia pora** (выбраныя творы), Беласток 1983;

— **Праваслаўная царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй** (эсэ), Н'ю-Йорк 1984;

– **Srebrny jeździec** (аповесці), Варшава 1984.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

***

Пасля публікацыі ўспомненай бібліяграфіі выявілася таксама, што не ўключана ў яе кніжка **„Белавежа. Літаратурны альманах"**, выдадзеная Аддзелам культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку ў 1988 годзе.

**Рэдакцыя**

## ЗАПРАШЭННЕ НА СЕМІНАР

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" запрашае на літаратурны семінар, прысвечаны абмеркаванню кнігі Георгія Валкавыцкага „Віры", які адбудзецца 19 студзеня 1992 года (нядзеля), у 10 гадзін, у памяшканні Гуманістычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, вул. Лінярская 4, пакой 42 (будынак былога Ваяводскага камітэта).

**Праўленне Літаб'яднання**

## Бібліяграфічны куточак

### БЫДГАСКАЯ ПРАПАНОВА

Быдгаскі навуковы антыкварыят у „Ofercie" — XII'91 прапануе звыш 350 розных выданняў. З іх я выбраў такія, якія, думаю, зацікавяць чытачоў „Нівы":

Poz. 54 — Donginov A.V., Červenskie goroda, Istoričeskij očerk v svjazi s etnografiej i topografiej Cervonoj Rusi, Varsava 1885. Cena 200 tys. zł.
Poz. 78 — (Giżycki J.M), Z przeszłości Karmelitów na Litwie i Rusi, Cz. 2, Kraków 1918. Cena 100 tys. zł.
Poz. 104 — Kłos J., Wilno, Przewodnik Krajoznawczy, Wilno 1929. Cena 80 tys. zł.
Poz. 171 — Murawiew M. M., Pamiętniki (1863-1865) pisane w roku 1866, Kraków 1896. Cena 60 tys. zł.
Poz. 179 — Niezbrzycki J., Polesie, Opis wojskowo-geograficzny i studjum terenu, Warszawa 1930. Cena 180 tys. zł.
Poz. 193 — Papee F., Polska i Litwa na przełomie wieków średnich, T.1: Ostatnie dwunastolecie Kazimierza Jagiellończyka, Kraków 1904, Cena 195 tys. zł.
Poz. 195 — Paszkiewicz H., Jagiellonowie a Moskwa, T.1: Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku (tom 2 nie ukazał się), W-wa 1933. Cena 180 tys. zł.
Poz. 196 — Paszkiewicz H., Polityka ruska Kazimierza Wielkiego, W-wa 1925. Cena 65 tys. zł.
Poz. 230 — Sawicki J., Studia nad położeniem prawnym mniejszości religijnych w państwie polskim, W-wa 1937. Cena 80 tys. zł.
Poz. 261 — Tomicki T., Słowiańskie rzeki w Europie, Przyczynek do starożytności słowiańskich, Kraków 1925. Cena 40 tys. zł.
Poz. 266 — Urbański Z., Mniejszości narodowe w Polsce, W-wa 1932. Cena 120 tys. zł.
Poz. 344 — Rozprawy i Sprawozdania z Posiedzeń Wydziału Historyczno-Filozoficznego Akademii Umiejętności, T.17, Kraków 1884 (m.in.: J. Wolff, O kniaziach Kobryńskich). Cena 140 tys. zł.

Заказы накіроўваць на адрас:

Bydgoski Antykwariat
Naukowy,
Stary Rynek 3,
85-105 Bydgoszcz.

**Пётр Байко**

### ПАПРАЎКІ

У пастскрыптуме пасля нарыса Яўгеніі Шымчук „Ксёндз Адам Станкевіч" („Ніва", н-р 1 ад 5 студзеня 1992 г.) не быў надрукаваны адрас аўтаркі. Сардэчна аўтарку і чытачоў перапрашаем. Тэкст пастскрыптума павінен выглядаць так:

PS. Аўтарка артыкула даследуе беларускі хрысціянскі рух і таму звяртаецца да ўсіх, хто мог бы ёй у гэтым дапамагчы, даслаць успаміны, здымкі, выданні і дакументы. Пісаць можна на адрас: Eugenia Szymczuk, Al. Ujazdowskie 16/13, 00-478 Warszawa.

Таксама просім прабачэння ў нашых чытачоў за тое, што два першыя нумары з гэтага года выйшлі з памылковай датай. Відаць, не паспяваем за часам, калі сядзім усё яшчэ ў дзевяностa першым...

**РЭДАКЦЫЯ**

## Свойскія малюнкі

**Падножжа Святой Гары Грабарка.**
*Мал. Леаніда Вішанкі.*

## НАШЫ КАРАНІ

**XXVI. Прыстанішча і ахова праваслаўным.**

Трагічны лёс спатыкаў усё насельніцтва тых зямель, якія трапілялі ў татарскую няволю. Разам са свецкімі людзьмі гінула духавенства белае і манахі. Наезнікі аднолькава дачыста абрабоўвалі звычайных людзей, княскія харомы, як цэрквы і манастыры. Таму перад надыходзячымі татарамі ўсе разбягаліся, куды толькі вочы глядзяць. Гэтыя ўцёкі не спыніліся і потым, таму што жыццё пад татарскім прыгнётам было невыносным. Татары паслядоўна, што некалькі гадоў, праводзілі дакладны перапіс насельніцтва, моладзь і найлепшых рамеснікаў забіралі ў няволю, пераважна гналі на продаж на незлічоных кірмашах нявольнікамі ў Азіі і Паўночнай Афрыцы, а рэшту насельніцтва абкладвалі цяжкімі данінамі. Многія ўцекачы з цяперашніх украінскіх, а нават адлеглых рускіх зямель знаходзілі прытулак у Вялікім княстве Літоўска-Беларускім, у тым ліку на нашым Пабужжы, Панароўі і Панямонні. Таксама прыбывалі сюды і пасяляліся свяшчэннікі і манахі, прыходзілі не з пустымі рукамі: прыносілі ў тутэйшыя цэрквы і манастыры выратаваныя ад рабунку ці знішчэння татарамі іконы, кнігі, літургічнае начынне, царкоўнае абсталяванне. Гэта паўплывала на пэўнае ажыўленне духоўнага жыцця на нашых землях, узмоцніла яго.

Варта таксама памятаць, што ў манастыры ва Угруску (сённяшняе сяло Угруск на рацэ Буг ў Хэлмскім ваяводстве) пасяліўся Кірыла, ігумен аднаго з кіеўскіх манастыроў, які ў 1242-1249 гадах быў нарэчаным мітрапалітам кіеўскім, а ў 1249 г. патрыярх канстанцінопальскі паставіў яго ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Такая непасрэдная блізкасць мітраполічай сталіцы надзвычай карысна паўплывала на развіццё духоўнага жыцця і храмавага будаўніцтва на Пабужжы і Панароўі.

Цікавым далёкім водгуллем тых, або магчыма і пазнейшых падзеяў, трэба лічыць даволі частыя на сённяшняй Беласточчыне легенды і паданні пра ўцякаючых ад татараў манахаў, якія прыбываюць у тую ці іншую мясцовасць і засноўваюць свае скіты, келлі ці манастыры. Напрыклад, у Мельніку пра гару Ушэсця расказваюць, быццам на яе ўвайшлі ўцякаючыя ад татараў манахі і заснавалі манастыр, пра паходжанне назвы вёскі Клейнікі гаворыцца, нібыта першапачаткова гэта былі Келейнікі, бо тут знаходзіліся манаскія келлі ўцёкшай ад татараў брацці і г.д. Словам, пераказы пра ўцякаючых на тутэйшыя землі людзей з іншых рэгіёнаў Усходняй Славяншчыны захаваліся да сёння.

Татары крывым вокам глядзелі на тое, што іх падданыя бягуць у Вялікае княства Літоўска-Беларускае. Яны працяглы час спрабавалі захапіць яго. Гэтак у 1241 г. значныя татарскія сілы ўдарылі на Берасцейшчыну, але аб'яднаныя дружыны Берасцейскай, Дарагічынскай, Гарадзенскай, Ваўкавыскай і іншых зямель адбілі гэты наступ. Палягло мноства вояў, на поле каля Бярэсця нельга было „ити... смрада ради множества избиеных" — чытаем у Іпацьеўскім летапісе. У наступным, 1242 г. войскі Вялікага княства Літоўска-Беларускага разграмілі татарскія полчышчы пад Лідай, а ў 1249 г. пад Крутагор'ем (у 40 кіламетрах на захад ад Менска). Аднак гэта не зняахвоціла татарскіх заваёўнікаў да наступных нападаў, як, напрыклад, у 1259, 1277 г.г. і інш., але ўсе яны былі адбіты. Такім чынам маладая і энергічная дзяржава — Вялікае княства Літоўска-Беларускае, яго праваслаўнае насельніцтва, у тым ліку і з тутэйшых зямель, давала гераічны адпор татарскай навале — той цёмнай сіле, перад якою скарылася амаль уся Азія і паў-Еўропы.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## КНІЖКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ

Чытачы „Нівы" і асабліва „Зоркі" добра знаёмы са сталай рубрыкай пад тоненькай віньеткай „Вершы Віктара Шведа". Калі ў нас здараецца сумны настрой, калі апаноўвае пачуццё бязвыхаднай абыякавасці да свету, мы, часам несвядома, бярэм у рукі „Ніву": можа, натрапім на нешта весялейшае. І вось тут кідаецца ў вочы тая маленькая рубрычка з імем Віктара Шведа. Чытаем:

*- Вельмі кахаю я бабусю,-*
*Таце сказаў малы сынок. -*
*Напэўна я з ёй ажанюся,*
*Калі прыбудзе мне гадок.*

*- Не можаш, дарагі Адаме,-*
*Тата сынка перасцярог,-*
*З маёю ажаніцца мамай.*
*- А ты з маёй, татулька, мог?!*

Гэткі рыфмаваны анекдот не можа не выклікаць усмешкі. А такіх вясёлых вершыкаў вельмі шмат у новай кніжцы Віктара Шведа „Вясёлка", якая паявілася ў продажы пад канец адыходзячага года. Кніжку выдала Беларускае грамадска-культурнае таварыства дзякуючы фінансавай дапамозе Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы.

„Вясёлка" - адзін з большых зборнікаў вершаў Віктара Шведа. І прысвечаны ён дзецям - у ім творы аб дзецях і для дзяцей. У зборнік увайшлі вершы, пісаныя на працягу апошніх 15 гадоў, друкаваныя і не друкаваныя раней у „Ніве" і „Зорцы". Дарэчы, апошнія два гады прынеслі аўтару аж тры зборнікі вершаў пасля шматгадовай засухі не па яго віне. У 1990 годзе выйшла з друку ў Мінску „Мая зялёная Зубровія", а ў 1991 годзе ў Беластоку - спачатку „Родны схоў", а пад канец года яшчэ і „Вясёлка". Кніжка вершаў для дзяцей была падрыхтавана да друку яшчэ недзе ў сярэдзіне 80-х гадоў, але вельмі доўга праляжала ў Міністэрстве ўнутраных спраў (тады без згоды гэтага міністэрства Таварыства не мела права нічога выдаваць), мабыць, нехта ніяк не мог вырашыць, ці гэтая кніжка з дзіцячымі вершыкамі не з'яўляецца вельмі небяспечнай лектурай. Калі ж нарэшце міністэрства згадзілася, каб кніжка пабачыла свет, дык ужо не было на яе грошай.

Сам аўтар вельмі эмацыянальна адносіцца да сваёй дзіцячай творчасці. Вельмі перажываў, што так доўга яго вершы не маглі трапіць да малога чытача. Але вось кніжка ёсць, і я з прыемнасцю заахвочваю ўсіх з ёю пазнаёміцца.

У „Вясёлцы" каля 280 маленькіх і большых рыфмаваных анекдотаў, цікавых замалёвак, якія з'явіліся дзякуючы добраму веданню аўтарам дзіцячай псіхікі, дзіцячай логікі, але і ўменню падгледзець адносіны старэйшых да дзіцяці. Не кожны з нас умее глянуць на саміх сябе збоку, глянуць крытычна, з гумарам. Гэта добра ўдаецца Віктару Шведу. Не адзін бацька ўбачыць сябе ў яго кароценькіх мініяцюрах, калі толькі ўмее заўважыць свае ўласныя памылкі, выхаваўчыя хібы. Хоць бы такі верш:

*Каго баішся, тата?*

*- Ці ты ільва баішся, тата?-*
*Пытае малы Коля.*

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

## 29. „ПАРТЫ" У СПАДАРСТВА БАРТУЛЁЎ

Трэба канчаць свае ўспаміны, як ні кажы, з канца дзевяностага года. На жаль, выпаў амаль паўтарамесячны перапынак на побыт у Менску, але ўжо пастараюся скарачацца, тым больш, што вось і Янка Максімюк рвецца да пяра, седзячы яшчэ ў Нью-Йорку на стыпендыі: хоча падзяліцца з намі сваімі рэфлексіямі.

„Парты" ў спадарства Бартулёў было вызначана на суботу, 22 верасня 1990 года. Сапраўды была дзеля гэтага нагода, а шматлікае зборышча людзей у гэтай хаце — не навіна гаспадарам. У Нью-Йорку яшчэ знаходзілася шмат беларусаў з Менска, Беласточчыны, Вільні, што прыехалі на 19-ую Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Акрамя таго, ад нядаўна ў Нью-Йорку працаваў беларускі паэт Генадзь Бураўкін, на гэты раз як старшыня Беларускай місіі пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. З беларускай дэлегацыяй на чарговую сесію ААН пад'ехаў наш добры знаёмы, прафесар Адам Мальдзіс. Такім чынам, сустрэча мела стаць беларуска-міжнароднай.

Усяго сабралася каля 30 асоб:

Генадзь Бураўкін з жонкай Юляй,

праф. Адам Мальдзіс,

Уладзімір Сакалоўскі (намеснік Генадзя Бураўкіна) з жонкай,

д-р Вітаўт Кіпель,дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва, з жонкай Зорай,

сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА,

трое „Данчыкаў" (усе, апрача бабулі Яніны Каханоўскай, якая засталася з сабакам Расты на дачы ў гарах,і брата Юрчыка, якога, здаецца, не было ў Нью-Йорку): маці Юля Андрусішына, бацька Паўло і сам Данчык.

Рая Станкевіч,

Янка Запруднік, рэдактар газеты „Беларус",

Вацлава Вярбоўская, рэжысёрка з Менска, з дачкой Наташай,

Галіна Прыма, загадчыца беларускага дзіцячага садзіка з Менска,

Маргарыта Пярова, Данчыкава цётка (хаця па выгляду гэтага не скажаш), дачка роднай сястры Яніны Каханоўскай з Гатчыны, што ля Пецярбурга,

вільнюкі Міраслава Русак і Валянцін Стэх,

студэнтка БДУ Алінка Мяснікова,

паэт Сяржук Сокалаў-Воюш з Наваполацка,

настаўніца з Менска Валя Якімовіч з сынам Русланам,

ну і самі гаспадары: Вера, Францішак і іх дачка Аня (Антон паявіўся пазней),

ды я.

Хата была па-святочнаму вычышчана і падрыхтавана да прыёму гасцей. Адна з мінчанак, увайшоўшы ў вілу спадарства Бартулёў, войкнула: „Ну і жывуць!" „Але колькі гэта каштуе ім працы!" — не вытрымала я. „Хацела б я цэлае жыццё так цяжка працаваць!" — уздыхнула мінчанка. І праўда, адвучылі нас ад уяўлення пра дабрабыт як вынік працавітасці, прадпрымальнасці, дбаласці і... адчування прыгажосці.

Прыёмы ў Амерыцы адбываюцца крыху інакш, чым у нас, дзе шумлівыя застолллі часта ператвараюцца ў звычайнае п'янства. У нас наогул не гонар было б не сядзець за сталом, застаўленым ежай і піццём; кожны гаспадар імкнецца да таго, каб на белым абрусе не было відаць ад закускі пустога месца, бо гэта кепска сведчыла б аб ім. Госці маюць сядзець



*Злева; праф. Адам Мальдзіс, Данчык, сп. Антон Шукелайць.*



*Справа – жонка Генадзя Бураўкіна Юля, злева – жонка яго намесніка, Уладзіміра Сакалоўскага.*



*На кухні мітусіцца Аня, Сяржук дапамагае ёй ( маральна ).*

# У ЕЎРОПЕ НЯМА ЗАДВОРКАЎ

**( Працяг са стар. 1 )**

„Нацыянальная незалежнасць, — яшчэ не гарантуе справядлівасці і дэмакратыі", — глыбокадумна сцвярджае спадар Майсеня. А Вы як думалі, шаноўны кандыдат філасофскіх, калі не памыляюся, навук? Адкажыце лепш, а ці магчымы для беларусаў гэтыя самыя дэмакратыя і справядлівасць без нацыянальнай незалежнасці? Мяркуючы па Вашым артыкуле, адказ будзе станоўчы. Менавіта залежнасць і менавіта ад Расіі гарантуе беларусам вышэй пералічаныя каштоўнасці і ня толькі іх. Можа тут і крыецца адказ на пытанне, хто ж на самай справе хоча дэмакратыі, а хто — „сяўружыны з хрэнам". Саўружыну, хрэн і шмат чаго іншага яшчэ нядаўна атрымлівалі ва ўтульных размеркавальніках тыя красамоўныя салаўі, якія не шкадавалі натхнення на ўхваленне „адзінай і недзялімай", „непарушнай дружбы", „розуму, гонару і сумлення" і г.д.

Тых жа,хто меў смеласць ці неасцярожнасць звяртаць увагу на канкрэтныя і відавочныя эканамічныя, нацыянальныя, маральныя праблемы, што пацішку высыпалі за расфарбаваным у ружовыя таны гнілым фасадам, чакала зусім не сяўружына часам — і проста турэмная баланда. Бо імперыя ў тым выглядзе, што фармаваўся спачатку пры царах, а потым пры саветах, магла ўтрымлівацца толькі дэспатычнай уладай і вайсковай сілай. Ідэальным рэжымам для такой імперыі ёсць рэжым па ўзору сталінскага. Вось калі ўсё было цудоўна! Ніякіх мясцовых дэмакратый ці незалежнасцяў, ніякіх міжнацыянальных канфліктаў! Ціха, спакойна. Дык што, спадар Майсеня, яшчэ раз паспрабуем аднавіць Саюз узору 37 года? Хоць парадак будзе! Будзем сумленна працаваць на карысць „новага" Саюзу, якому так груба, нетактоўна, яшчэ не адчыніўшы дзверы, яшчэ не паглядзеўшы ўнутр, крычаць ад ганку „Не!" лідэры Народнага Фронту? Будзем і далей вывучаць „агульныя" гісторыю, культуру, мову, усё болей і болей забываючыся пра сваю — каб не пакрыўдзіць вялікага брата і ягоных дзяцей, якія і далей будуць аказваць нам гонар, прыязджаючы да нас жыць і працаваць і, вядома ж, ведаць нічога не захочуць пра нейкую там „беларускую" мову. Удзячныя беларусы, якія тут маюць перавагу, бо і так ужо авалодалі мовай старэйшага брата настолькі дасканала, што амаль зусім забыліся на сваю родную і толькі крышку саромеюцца свайго, будуць таксама насылаць сваіх дзяцей да „старэйшага брата" — у Цюмень на здабычу нафты, якую, магчыма, потым, калі мы будзем сябе д.обра паводзіць і не браць дрэнных прыкладаў з непаслухмяных суседзяў, старэйшы брат будзе „дружалюбна" прадаваць нам не за долары, а за рублі, ці куды яшчэ далей, для выканання чарговага „інтэрнацыянальнага абавязку". Паступова і неўзабаве прыйдуць да завяршэння працэсы, распачатыя некалькі стагоддзяў таму і так бліскуча паскораныя „вождем всех народов" — насельніцтва „Паўночна-заходняга краю" перамяшаецца з іншымі народамі Вялікай Расіі і раздзеліць іхні агульны лёс, якім бы ён ня быў. Такім чынам праблема нацыянальнай незалежнасці вырашыцца сама па сабе. Спакойна. Без „неразумнасці і авантурызму". Праўда, зашмат было пры Сталіне канцэнтрацыйных лагераў. І нядаўна іх зноў прывялі ў парадак. Можа там і збіраліся „рыхтаваць і вырошчваць" нашу нацыянальную незалежнасць? А што, можна было б добра засяродзіцца на прадмесце... Але праўда і тое, што закатавана было ў сталінскіх лагерах значна больш, чым загінула ў Карабаху ці Азербайджане... Хоць сяўружына з хрэнам у тых-сіх і тады на сталах вялася... Дык ці не ў такі „новы Саюз" кліча нас спадар Майсеня? Не? А ў які? Што ж ён пра гэта маўчыць? Так жа загадкава замаўкаў калісьці ў Вільні былы Генеральны Сакратар М. С. Гарбачоў, калі агітаваў літоўскіх камуністаў не аддзяляцца ад КПСС. „Вы ж ня ведаеце, якім ён будзе, наш новы Саюз!" — казаў ён. — А якім, якім? — пыталіся ў яго нецярплівыя літоўцы.

— Чакайце, усяму свой час. На наступным з'ездзе, можа, скажу, — загадкава ўсміхаўся Міхаіл Сяргеевіч, спадзеючыся, напэўна, што літоўцы і так абавязкова пойдуць у „новы Саюз". Хіба ж гэта не цікава — яшчэ раз зазірнуць „унутр". Але і літоўцы не блеснулі ветлівасцю і тактам. Пракрычалі з парога „Не!" і бразнулі дзвярыма. За што і былі пакараныя. А як цікава было б! Бо ўжо чакалі іх там, „унутры", „гасцінна ўсміхаючыся і нецярпліва пацiраючы рукі, таварышы Янаеў, Паўлаў, Пуга, Язаў і Кручкоў. А вось беларусы, дарэчы, менавіта за такі „новы Саюз", з вышэй пералічанымі асобамі на чале, і

 



*Гаспадыня прысела адпачыць.*

ды піць і есці даадвалу.

У Амерыцы прыёмы за сталом адбываюцца, бадай, толькі з нагоды рэлігійных свят ці нейкіх сямейных урачыстасцей. Часцей за ўсё яны робяць „парты" — на дзіўную для сярэдніеўрапейца манеру.

На вялізным, шырачэзным стале ў гасцінай сп. Бартулёў былі расстаўлены падрыхтаваныя намі раней пачастункі. Самыя розныя напіткі, віскі, каньякі, гарэлка, віно, — усё гэта стаяла на барыку ў вестыбюлі, які спалучаў гасцінны пакой і пакой для адпачынку. Наверх з вестыбюля вялі сходы, на якіх уладкаваўся Данчык і яшчэ пару асоб. Ля стала ў гасцінай стулляў не ставілі, кожны падыходзіў да стала, накладаў сабе якія хацеў стравы ды еў: або стоячы, або на нейкай канапе ці крэсле ў іншых пакоях, або пры малых століках, дзе хто які знайшоў, або проста, як Данчык, седзячы на сходах.

Таксама кожны сам сабеналіваў піццё, найчасцей госці рабілі „дрынкі", мяшаючы алкагольныя напіткі з безалкагольнымі.

І падумаць толькі, што ўсе наеліся і напіліся, хаця „прынукі" не было. А ў нас іншы госць мог бы і абразіцца, калі б яго не частавалі, не запрашалі есці, не прымушалі выпіць... Данчык узрушыў мяне, калі зверху лесвіцы я раптам пачула: „Ада, хачу яшчэ гэтай карычневай кашы!" (меў на думцы падрыхтаваны мною бігос з капусты з сушанымі грыбамі). „Ну, добра, кладзі яшчэ ўсяго пакрысе!" — дадаў ён праз хвілінку намыслу, уліваючы цяпло ў маё бабскае сэрца.

Пад'еўшы, усе, з „дрынкамі" ў руках, пазнаходзілі сабе ўтульныя месцы ў немалой „хатцы" сп. Бартулёў і вялі размовы пра Беларусь або слухалі песні Сяржука, які прыйшоў са сваёй неразлучнай гітарай.

Анечка Бартуль завіхалася на кухні, мыючы посуд і рыхтуючы да стала каву і салодкае. Сяржук, калі не спяваў, сядзеў побач і прыглядаўся да яе. Вера, напрацаваўшыся перад гэтым, ужо займалася толькі госцьмі.

Я, замест памагаць Ані, бегала з фотаапаратам па пакоях і рэгістравала ход падзей. Хацелася зняць і хату, і



*Данчык у размове з Генадзем Бураўкіным.*

людзей, і нават перадаць тую атмасферу, якая запанавала, калі беларусы, якіх раздзяляе акіян, сустрэліся вось тут, у гэтай утульнай беларускай хаце вядомых і шанаваных у Нью-Йорку людзей.

Многія са зробленых на гэтым прыёме здымкаў прыдаліся мне пазней для ілюстрацыі маіх успамінаў.

*Працяг будзе.*

**АДА ЧАЧУГА**
**Фота аўтара**



*Злева: Валянцін Стэх, Генадзь Бураўкін, Юля Бураўкіна, Вера Бартуль, аўтарка, Францішак Бартуль.*
*Хто пстрыкнуў фотаапаратам – не памятаю.*

✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱✱

прагаласавалі пераважнай большасцю на сакавіцкім рэферэндуме, чым і выклікалі захапленне спадара Майсені і часопіса „Политический собеседник" — а як жа, не дарма папрацавалі! Тая ж пасіўная пераважная большасць насельніцтва не падтрымала Народны Фронт, не выйшла на плошчу пад час путчу 19-21 жніўня. Дык што, і гэтым будзем ганарыцца? Як хто пажадае, толькі гэта ўжо не памяркоўнасць і талерантнасць, якімі па праву могуць ганарыцца беларусы, а — іншыя, зусім не ганаровыя якасці, назапашаныя за апошнія 70 гадоў: пакорлівасць, здранцвеласць і лянота розуму, канфармізм.

Так што прыйдзецца беларусам, калі яны жадаюць лепшай долі, неяк пазбаўляцца гэтай заганнай спадчыны, шукаць сваіх шляхоў, ужываючы свой розум, які яны ўсё ж такі, як слушна заўважыў спадар Майсеня, „маюць". Ніхто не кажа, што ўсё на гэтым шляху будзе гладка. Як ніхто і не кажа, што сапраўдную дэмакратыю і незалежнасць мы здабудзем ужо заўтра. Неабходны буферны перыяд. Неабходна неадкладна, не топчучыся на месцы і не губляючы часу на новыя зазіранні „унутр", збіраць за стол перагавораў краіны былых СССР і сацыялістычнага лагера і неадкладна вырашаць тыя жыццёва важныя і неадкладныя пытанні, якія ўзнікаюць і растуць у сувязі з аб'ектыўным і непазбежным распадам гэтых суперструктур. Безумоўна, сувязі паміж нашымі краінамі павінны захавацца. Бадай толькі спадару Майсеню можа прыйсці ў галаву атаясамліваць незалежнасць з ізаляванасцю. Аднак, важна акрэсліцца, на якіх прынцыпах будуць усталёўвацца гэтыя адносіны. Ці мы аднаўляем „новы Саюз", з традыцыйна кіруючай роляй Масквы і багажом імперскіх амбіцый, што так ці інакш будзе ўплываць на паводзіны маскоўскіх лідэраў, якія паспелі ўжо даказаць сваімі нядаўнімі заявамі і актамі, што яны глядзяць на гэтую кіруючую ролю як на сваю спрадвечную і законную спадчыну, ці ствараем нейкую іншую эканамічную супольнасць краін Усходняй Еўропы, пабудаваную на зусім іншых прынцыпах: роўнасці пры рэалізацыі сваіх магчымасцяў, добразычлівасці, узаемадапамогі, павагі да незалежнасці кожнай краіны, недапушчальнасці ўціску, шантажу і пагроз пры вырашэнні любых пытанняў. Ніякая краіна не павінна браць на сябе ў гэтай супольнасці месіянскія, правадырскія функцыі, і выканаць гэтую ўмову цяжэй за ўсё будзе, напэўна, Расіі, бо надта моцна ўкараніліся там імперскія стэрэатыпы мыслення. Не будзем зараз спыняцца на тым, кім убіваліся ў галовы гэтыя стэрэатыпы і для чаго. Гэта — даўно вядома, як відавочныя і вынікі, да якіх прывяла народы Расіі „вялікадзяржаўная" палітыка. Адзначым толькі, што для ўсіх нас даўно надышоў час перагледзець свае пазіцыі ў міжнародным супольніцтве, шукаць і засвойваць новыя прынцыпы існавання. А сёння, пакуль гэтыя стэрэатыпы яшчэ існуюць і маюць вялікі ўплыў, наўрад ці варта размяшчаць штаб-кватэру новага супольніцтва ў Маскве, бо ў такім выпадку існуе рэальная пагроза перахода дзейнасці гэтага супольніцтва на даўно накатаныя рэйкі.

Трэба абраць іншы горад, іншую краіну. Тут, на мой погляд, варта звярнуць увагу і на традыцыйна талерантную, безамбіцыёзную і памяркоўную, часам нават занадта, Беларусь. Так што калі б нашыя кіраўнікі, перасіліўшы сваю, зноў жа традыцыйную, сціпласць, звярнуліся б да краін былога СССР і сацлагера з прапановай правесці ў Менску канферэнцыю па вырашэнні найбольш істотных палітычных, эканамічных і сацыяльных праблем, гэту прапанову, пэўна, сустрэлі б у свеце зацікаўлена і сур'ёзна, бо Беларусь сёння — бадай самая спакойная краіна ва Усходняй Еўропе.

Цяпер яшчэ пра адзін пасаж з артыкула спадара Майсені. Пра двайныя стандарты і русафобію, у якіх абвінавачваецца спадар Трусаў, а заадно і ўсё кіраўніцтва БНФ у сувязі з тым, што яны „замоўчваюць „праблему Віленскага краю" і напіраюць на „беларускую праблему" на Смаленшчыне і Браншчыне. „Чаму?..", — гняўліва пытаецца спадар Майсеня. І на самой справе, чаму? І хто ж тады, апроч Народнага Фронту, будзе пра іх клапаціцца? Ці не спадар гэта Майсеня?

Ах, Езус! Чуеце, беларусы Віленшчыны і Беласточчыны? З'явіўся, нарэшце, абаронца вашых інтарэсаў і правоў.

Толькі, шаноўны спадар Майсеня, каб Вас не збянтэжыла магчымая неадэкватная рэакцыя тамашніх беларусаў на Вашую заклапочанасць, дазволю сабе расказаць пра адзін выпадак, які здарыўся з намі на беларуска-літоўскім памежжоўі пад час здымкаў „Сны аб Беларусі". Наша група спынілася ў адной беларускай вёсцы на тэрыторыі Літвы, каб узяць у мясцовых жыхароў інтэрв'ю. Са сваіх заможных фальваркаў выходзілі дзядзькі і з задавальненнем гутарылі з намі на выдатнай беларускай мове, якую мы рэдка цяпер чуем на Беларусі. І раптам паніка. З двароў выбеглі напалоханыя кабеты і пачалі зацягваць сваіх гаспадароў у хаты. Потым высветлілася, што нехта пусціў чутку, што мы праводзім гэтае апытанне, каб зноў далучыць вёску да БССР. А такая перспектыва прыводзіла яе жыхароў у роспач, бо, як яны нам цалкам пераканаўча заявілі: „Там у вас, на Беларусі, людзі света не бачаць". Тое самае лічаць і на

( Працяг на стар. 8 )



 

# НАСТАЛЬГІЯ ПА ЛЯСНЫМ ЧЫГУНАЧНЫМ ПУЦІ

У 1991 г. выпадала 75-я гадавіна існавання лясной вузкакалейнай чыгункі ў Белавежскай пушчы.З гэтай нагоды Акруговае праўленне дзяржаўных лясоў у Беластоку выпусціла брашуру*), у якой прыпамінае мінулае чыгункі не толькі ў белавежскіх нетрах, але і ў цэлай паўночна-ўсходняй Польшчы. Так, хутчэй мінулае, бо, як вядома, лясная чыгунка сёння выдае ўжо апошняе сваё дыханне. Проста перажылася. Стала нерэнтабельнай, малааператыўнай і нат клапатлівай. Сёння драўніну больш танна і спраўна вывозяць спецыяльнымі грузавымі аўтамабілямі. Калі пасля II сусветнай вайны ў Польшчы існавала 37 лясных чыгунак, то ў 1990 г. было іх ужо толькі... 4, з якіх 3 — у нашым рэгіёне. Праўда, зараз робяцца захады дастасаваць лясную чыгунку да перавозу турыстаў (у Белавежскай пушчы), але такім атракцыёнам нямногія карыстаюцца, бо і кошт праезду не на магчымасці кожнага. А таннай таксама быць не можа, бо не заробіць на сваё ўтрыманне. Проста няма выхаду, як адыйсці беззваротна...

Аўтары кніжачкі падзялілі беластоцкія чыгункі на тыя, якіх ужо няма, з якімі развітваемся, і якія павінны як найдаўжэй аставацца. Тая, якой ужо няма, гэта чыгунка ў Нурцы. Наогул было іх дзве. Адну збудавалі ў 1915—1917 гадах (шляхі: Журобіцы—Залессе і Адамова—Радзівілаўка — разам 27 км), а праіснавала яна да 1955 г. Адной з прычын ліквідацыі было тое, што нерасякала яна вайсковую пляцоўку. Другую чыгунку здалі ў карыстанне на пераломе 1958—59 гадоў. Пуць вёў з Нурца ў Адамова. У год вазіла гэтая чыгунка да 9 тыс. кубаметраў драўніны. Сваю службу закончыла ў 1972 г.

Чыгункі, з якімі развітваемся, гэта ў Чорнай Беластоцкай (Кнышынская пушча) і ў Плацічне (Аўгустоўская пушча). Першая была збудавана ў 1919 г. (тры шляхі: Чорная Беластоцкая з адгалінаваннямі ў Кнышын і Катрынку, Чорная Бел. — Раманаўка, Чорная Бел. — Валілы — разам 158 км). У год вывозілі ёй каля 160 тысяч кубаметраў драўніны. Першая чыгунка ў Аўгустоўскай пушчы дзейнічала ў 1910—17 гадах (шлях: Плацічна—Васільчыкі — 13 км). Другую пачалі будаваць у 1923 г. (шлях: Плацічна—ваколіцы возера Зэльва — 36 км). Вывозілі да 80 тыс. кубаметраў драўніны.

Будаванне лясной чыгункі ў Белавежскай пушчы пачалося навесну 1916 г. Будавалі яе немцы, якія нахабна эксплуатавалі ў той час лес. Было шмат накірункаў, некаторыя адрэзкі былі пераносныя. Агульна даўжыня „нямецкай" чыгункі складала 180—200 км. Чыгунку гэтую інтэнсіўна разбудоўвалі, пачынаючы з 1920 г., і ў міжваенны перыяд, дасягаючы ў 1939 г. каля 325 км, у тым ліку 200 км пастаянных шляхоў. 7 км чыгункі пабудавалі ў 1940 г. саветы, нямнога больш падоўжылі яе і ў пасляваенны перыяд. У другой палове 30-х гадоў белавежскай чыгункай вывозілі звыш 1 млн. кубаметраў драўніны. Давала яна працу звыш тысячы чалавек. Заняпад чыгункі пачаўся ў 70-тыя гады, калі пачалося інтэнсіўнае развіццё аўтамабільнага транспарту. Паралельна са зніжэннем перавозаў курчылася і чыгуначная сетка (сёння ўжо толькі 123 км). 7 ліпеня 1991 г. пачаліся турысцкія перавозы на 12-кіламетровым адрэзку Гайнаўка—Тапіла. Ці будзе гэта „новая эра" ў жыцці белавежскай чыгункі, ці пачатак апошняга, аганальнага перыяду?

У брашуры даецца таксама кароткая характарыстыка паравога паравоза, прыводзяцца прозвішчы людзей, якія найвыдатней звязаліся з белавежскай чыгункай, і прозвішчы яе кіраўнікоў. Называюцца таксама этапы развіцця чыгункі ў Белавежскай пушчы. Брашура праілюстравана дзесяццю архіўнымі здымкамі і дзвюма картамі Белавежскай пушчы (даваеннай і пасляваеннай). Аматары Беластоцкай зямлі павінны абавязкова купіць яе ў свае хатнія бібліятэчкі.

**ПЁТР БАЙКО**

---------

*) S. Szawiec, K. Bielawski, W. Stankiewicz, „Leśne kolejki wąskotorowe północno-wschodniej Polski w latach 1910—1991. 75 - lecie kolejki leśnej w Puszczy Białowieskiej", Białystok 1991.



# У ЕЎРОПЕ НЯМА ЗАДВОРКАЎ

**( Працяг са стар. 7 )**

Беласточчыне. І з гэтым цяжка не пагадзіцца. Нідзе за межамі былой БССР беларусы не маюць такога нізкага ўзроўню жыцця, як у нас на Радзіме, апроч, напэўна, толькі тых жа Браншчыны ці Смаленшчыны. Безумоўна, ёсць у жыхароў Віленшчыны і Беласточчыны праблемы, пераважна маральнага кшталту. Напрыклад, яны не маюць магчымасці паўсюдна ўжываць родную мову, атрымліваць на ёй адукацыю. Але і на Віленшчыне, і на Беласточчыне беларуская мова вывучаецца ў школах як прадмет. Хіба лепшая сітуацыя з роднай мовай у нас на Беларусі? Пра Смаленшчыну і Браншчыну я ў гэтай сувязі і ўвогуле маўчу. Маўчыце, шаноўны спадар Майсеня, і Вы. Бо калі Вы з Вашымі імкненнямі ўсур'ёз пачняце клапаціцца яшчэ і беларусамі Віленшчыны і Беласточчыны, — ох, вялікая трывога за іхні лёс ахоплівае мяне!

На развітанне адкрыю чытачу страшную тайну — у Еўропе няма задворкаў!

Спадар Майсеня палохае нас тым, што калі мы не пагодзімся з ганаровай роллю ўваходных дзвярэй у „новы Саюз", то нас чакае жахлівы лёс — мы ператворымся ў „задворкі Еўропы". Дык вось, наконт задворкаў Еўропы. Сам ездзіў, бачыў. Нідзе, ад Брэста да Парыжа і далей, няма таго, што мы звычайна завём задворкамі. Усё там неяк аднолькава прыбрана, чыста і заможна. А тым, хто хоча паглядзець на сапраўдныя задворкі, трэба ехаць ў зваротным напрамку. Задворкі ў поўным сэнсе гэтага слова — з горамі бруду, гнілымі хібарамі, паваленымі платамі і г.д. пачынаюцца недзе за Вязьмай, і „дасягаюць кульмінацыі" у прадмесцях першапрастольнай. Думаю, любы, хто хоць раз праехаў экспрэсам „Беларусь" да Масквы, ня будзе з гэтым спрачацца.

Дык вось, калі ў Еўропе і ёсць задворкі, то гэта, як нам ні горка прызнаваць — былы СССР. А тое, што па сутнасці прапануе Беларусі шаноўны спадар Майсеня, — гэта застаецца задворкамі гэтых задворкаў.

*Менск, 19 кастрычніка 1991 г.*

**УЛАДЗІМІР КОЛАС**

# БЕЛАРУСІЯНА НА КАРЦЕ БЕЛАСТОКА

**Вуліца Навагрудская** знаходзіцца ў цэнтры горада, спалучае вул. Палескую з вул. Цёплай. Невялічкая яна — усяго з паўкіламетра. Мае асфальтаванае палатно. Пры ёй знаходзяцца ў асноўным жылыя блокі. Ля скрыжавання з вул. Цёплай ёсць стаянка таксі. Пры вул. Навагрудскай усяго адна пасялковая спажывецкая крама. Вуліца, можна сказаць, адна са спакайнейшых. Вялікі рух затое на паралельнай да яе — вуліцы Юравецкай.

**Фота Янкі Целушэцкага**







# АСАЦЫЯЦЫЯ ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ БЕЛАРУСІ

**( Працяг са стар. 1 )**

іншых нацыянальнасцей і іншых краін. Удзельнікамі канферэнцыі вельмі прыхільна была сустрэта ідэя выдання кніжкі „Каханне ў народнай інтэрпрэтацыі", да якой матэрыял збіраў я на працягу болей чым дваццаці гадоў.

Далейшая дыскусія паказала фальклоразнаўчыя праблемы з розных куткоў Беларусі. Удзельнікаў дыскусіі было так многа, што ў канцы трэба было абмежаваць іх выступленні да пяці мінут.

Канферэнцыя прыняла пастанову стварыць Асацыяцыю фалькларыстаў Беларусі, прэзідэнтам якой быў выбраны Васіль Ліцьвінка. Адным з двух віцэ-прэзідэнтаў быў выбраны я.

Усё мерапрыемства ўпрыгожыў цудоўны канцэрт, у якім удзельнічалі дзесяткі мастацкіх калектываў і індывідуальных артыстаў. Асабліва вялікую фальклоразнаўчую каштоўнасць прадстаўлялі шматлікія калектывы з Палесся, якія вельмі мне напаміналі нашы гайнаўскія і бельскія калектывы.

**А. БАРСКІ**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



...І стала ў лесе ціха... Фота Я. Целушэцкага.

Віктар Гардзей

## ЗІМОВЫ ЛЕС

Зімовы лес дзівосны —
Не лес, а проста казка!
Заснежаныя сосны
Стаяць у белых масках.

Красой зачараваны,
Мароз аслаб нядрэмны.
Пустэльныя паляны
Здалёк мігцяць таемна.

Завея тут хадзіла
Пужліваю ласіхай.
І выбілася з сілы,
І стала ў лесе ціха.

Сумёты пры ялінах
Стаяць, нібы палаткі.
Там сняць, як у пярынах,
Глушцы і курапаткі.



Авяр'ян Дзеружынскі

## ПОМНІК СУМЛЕННЮ

Часіна прыйдзе —
Я чакаю —
Збярохм для лому
Ўсе замкі
І помнік выплавім
Сумленню.
Няхай стаіць ён
На вякі.



### НА ВАДОХРЫШЧА

Зорная ноч напярэдадні — уродзіць гарох і ягады высыплюцца густа і буйна.

Пахмурна ў гэты дзень — чакай ураджаю зерневых, а наадварот — недарод.

На Вадохрышча завіруха — на Вялікдзень таксама.




### НЕ САМЫ ГОРШЫ

— Мама, мяне больш не завуць самым горшым вучнем!
— Малайчына, сынок! Ты стаў лепш вучыцца!
— Не, да нас прыйшоў новенькі, які вучыцца горш за мяне.

## НОВЫЯ ШКАРПЭТКІ

Бабуля звязала з воўны Андрэйку чырвоныя шкарпэткі, такія прыгожыя, цёплыя і мяккія. Яны вельмі спадабаліся хлопчыку.

Андрэйка адзеў новыя шкарпэткі і, задаволены, важна хадзіў па хаце, час ад часу паглядаючы на сваю абноўку. Вельмі шкада, што ў такім убранні яго ніхто не бачыў. Але ж на вуліцу выйсці нельга — дрэннае надвор'е. А так хацелася пахваліцца хоць каму-небудзь.

На ўскраі шырокай печы шчыльна прыжмурыўшы вочы драмаў кот Пракоп.

— Глядзі, Пракоп, а ў мяне новыя шкарпэткі, — пахваліўся хлопчык.

Але той толькі насцярожана зыркнуў у бок Андрэйкі і адвярнуўся, зноў заплюшчыўшы вочы.

— Што, табе не падабаюцца мае новыя шкарпэткі? — Хлопчыку стала крыўдна. — Зірні, яны ж такія прыгожыя.

Кот па-ранейшаму драмаў, распусціўшы ў бакі свае вусы. Яму ўсё было абыякава.

Андрэйка не мог з гэтым пагадзіцца. Не можа быць, каб такая прыгожая рэч, як чырвоныя шкарпэткі, не спадабалася яго вусатаму сябру.

— А ці не хочаш, кот, памераць мае шкарпэткі? — запытаўся хлопчык.

Ён хуценька ўскарабкаўся на печ, зняў шкарпэткі са сваіх ног і пачаў адзяваць іх Пракопу. Але кату яны былі завялікія і ніяк не трымаліся на лапах, ні на пярэдніх, ні на задніх.

Гэтая мітусня з прымеркай кату Пракопу хутка надакучыла. Раз-пораз ён імкнуўся вырвацца з хлопчыкавых рук. Нарэшце гэта ўдалося, кот саскочыў з печы і збег на кухню.

— Не падабаюцца і не трэба, — яшчэ больш пакрыўдзіўся Андрэйка. — Але чаго ж ад іх так уцякаць.

Некаторы час хлопчык нездаволена соп на ўскраі печы, затым злез з яе і без мэты пасноўдаўся па хаце. Потым сеў за стол і ўзяўся за фарбы. Спачатку намаляваў свае чырвоныя шкарпэткі. Потым прымаляваў да іх ката Пракопа. Кот атрымаўся зялёнага колеру, але вельмі прыгожы і крыўда малога мастака на свайго сябра знікла бясследна.

Калі ж Андрэйка ўстаў з-за стала, каб паказаць малюнак бабульцы, то зазірнуў на печ. Там зноў драмаў кот Пракоп, прывольна выцягнуўшыся ва ўвесь рост на Андрэйкавых новых мяккіх шкарпэтках.

— Я знаў, знаў, што яны табе спадабаюцца! — звонка і радасна закрычаў хлопчык.

**Мікалай Валынец**



Васіль Жуковіч

### КОТ МУРЛЫКА

Снег пайшоў.
Каток Мурлыка
бачыць першую зіму,
і па снезе прагуляцца
вельмі хочацца яму.
Хто не ведае Мурлыкі:
балаўнік расце вялікі.
Толькі з ганка збег Мурлыка
і на снежны стаў абрус —
казытлівая сняжынка
зачапілася за вус;
ён яе імгненна лапкай
з вуса тоненькага строс,
тут і новыя сняжынкі
казытнулі вуха, нос.
Забаўляўся кот Мурлыка,
не адну сняжынку змяў,
але ўсё-такі стаміўся,
запішчаў ён:
— мяў-мяў!
Дайшло раптам да малога:
ён — адзін,
сняжынак — многа.



Віктар Гардзей

### КАЛІНА

Сівер з поля вее.
Журыцца даліна.
Ярка палымнее
На мяжы каліна.

Ягады паспелі,
Падмарозіў іней.
І адразу селі
Птушкі на каліне.

Шустрыя чародкі
Абтрасаюць іней,
За абед салодкі
Дзякуюць каліне.

## Малюнкі школьнікаў



Малюнак Эдыты Ваўранюк са школы ў Храбалах.




### ЯК АПРАНАЛІСЯ НАШЫ ПРОДКІ

Самым старажытным адзеннем былі шкуры жывёл. У часы неаліту з'явілася адзенне з тканін. З даўніх часоў, задавальняючы практычныя патрэбы, адзенне з'яўлялася і ўпрыгожаннем, важнай этнічнай прыкметай, мела магічнае значэнне. Уявіць адзенне нашых продкаў нам дапамагаюць археалагічныя раскопкі, асабліва курганоў, фрэскі, абразы, кніжныя мініяцюры.

З часоў Полацкага і Турава-Пінскага княстваў да нас дайшлі рэшткі тканін (ільняных, пяньковых, шарсцяных, шаўковых), галаўных убораў, абутку. Асноўным прадметам як жаночага, так і мужчынскага касцюма была тунікападобная кашуля. Яна мела круглы, чатырохвугольны або касы выраз, які аздабляўся вышыўкай ніткамі, пацеркамі, металічнымі пранізкамі або тасьмой. Былі і кашулі са стаячымі каўнярамі. Зашпільваліся яны гузікамі, фібуламі, завязваліся шнурком. У жанчын кашуля дапаўнялася панёвай, а ў мужчын — портамі. Верхнім адзеннем былі світы, наплечныя пакрывалы, кажухі і шубы.

Значную ролю ў адзенні адыгрываў пояс з тканіны, скуры, сплецены з нітак, часта яго насілі з металічнымі спражкамі. Ёсць меркаванні аб наяўнасці ў тыя часы кофт, сарафанаў і фартухоў. Фарбы для адзення атрымлівалі з дзікіх раслін (васількі, талакнянка, ягады), дрэў. Выкарыстоўваліся і мінеральныя фарбавальнікі — охра і мяккі глiністы жалязняк.

Адзенне знаці шылася з дарагіх прывазных тканін (шарсцяных і шаўковых) і ўпрыгожвалася вышыўкай залатымі ніцямі і каштоўнымі камянямі. Жанчыны насілі па дзве сукні (доўгую ніжнюю з вузкімі рукавамі і верхнюю — кароткую і з шырокімі рукавамі). Адзеннем знатных мужчын былі кашуля, порты, плашчы. Шырока распаўсюджаны быў скураны абутак (асабліва ў гарадах), які ўпрыгожваўся вышыўкай.

Л. Дучыц



# КУРТАТЫ ЗАЙ

1

Зай даўней не быў куртаты.
Кажуць, быў ён і хвастаты.
Не хаваўся зай калісьці —
З чым было на людзі выйсці.
Хвост ён меў такі пушысты,
Што зайздросцілі ўсе чыста.
Ганарыўся зай надзвычай,
Ды ў звяроў быў даўні звычай:
Без хвастоў яны хадзілі,
Толькі ў святы іх насілі.
Адсвяткуюць —
Трэба зноўку
Здаць убор свой у кладоўку.
А кладоўку зай вартуе:
Ён — вушасты, добра чуе.

2

Зай з дзвярэй не зводзіў вока,
Не хадзіў у лес далёка.
А звяры сабе гулялі,
Дужа часта святкавалі.
Вось ідзе зноў тое свята —
Аж гудуць лясныя шаты.
Шум і тупат.
Смех і гоман.
Хто ж застацца хоча дома?

У гуморы
Ля каморы
Зай пачаў даваць уборы:
Хвост — мядзведзю,
Хвост — бабру,
Хвост — казулі,
Хвост — зубру,
Хвост — аленю і куніцы,
Хвост — вавёрцы і лісіцы,
Даў кароткі хвост яноту,
Так і збыў сваю турботу.

Сонца высака на небе.
Прыбірацца заю трэба.
Глянуў зай у кут:
„О, гора!
Апусцела ўся камора".
На паліцах —
Пуста,
Гола.
Нахіліў зай нізка голаў
І ад роспачы заенчыў:
„Нехта хвост украў заечы!"

3

Конікі на скрыпках гралі,
Клёны ў ладкі заляскалі.
Вось гулянка дык гулянка —
Аж звініць уся палянка!
Ежа ёсць усім па густу.
Вунь казёл грызе капусту.
Рыецца кабан ля дуба.
Лізунец аленю любы.
Налавіла рыбы выдра,
Ды янот ледзь з лап не выдраў.
А мядзведзь сабе з даліны
Поўны кош прынёс маліны.

Ліска, быццам каралева,
Села ў гонары ля дрэва,
Бо прызнаў народ звярыны
Самым лепшым хвост лісіны.
Толькі зай, як небарака,
У кустах ад крыўды плакаў:
Без яго звяры гулялі,
Ліску мёдам частавалі.
Каб пабыць на свяце госцем,
Трэба хоць маленькі хвосцік.

4

Надвячоркам
Трэба зноўку
Здаць хвасты свае ў кладоўку.
І звяры шукаюць зая:
— Дзе ён знік, дзе прападае?
Ліска кпіла:
— Чулі, можа?
Зай згубіў свой хвост прыгожы!..
А казёл усім даводзіў:
— Ён сюды і не прыходзіў.
Злосць бярэ ўжо і мядзведзя:
— Загуляўся, мабыць, недзе.

Зай, пачуўшы нагаворы,
Ключ закінуў ад каморы,
У журбе пабег з дубровы
Па сцяжынках верасовых.
Белы месяц засвяціўся.
Зай, здзівіўшыся, спыніўся.
Ён убачыў раптам хвосцік,
Што згубіў на сцежцы хтосьці.
Скасавурыў зай наш вока:
Ці няма звяроў навокал?
Прычапіў ён хвост куртаты,
Весялей пабег дахаты.

Віктар Гардзей




### „РАШЫЎ" ЗАДАЧУ

— Ты рашыў задачы, якія настаўніца задала на сёння?
— Усяго адну, мама.
— Якую менавіта?
— А тую, што спісаў ад Колі.

В.Б.






Хто з кім сустрэўся? Замалюй палі азначаныя колцам–карычневым, кропкай–зялёным, крыжыкам–сінім, пустыя палі–чырвоным, трохкутнікам–жоўтым колерам.

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.

### ЛЕКСІКАЛОГІЯ

**8. Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы.**

(*працяг*)

**Запазычанні са скандынаўскіх і фіна-ўгорскіх моў**

Усходнія славяне яшчэ да ўтварэння Кіеўскай дзяржавы, выкарыстоўваючы водныя шляхі, вялі ажыўлены гандаль з народамі, якія насялялі Скандынаўскі паўвостраў — продкамі сённяшніх нарвежцаў, фінаў, шведаў. Гэта спрыяла пранікненню ў пісьмовую мову ўсходніх славян пэўнай колькасці скандынаўскіх слоў, асабліва марскіх, грамадскіх, гандлёвых і бытавых тэрмінаў,напр.: *кляймо, крук, лар* (сучасн. *ларок*), *сельдзь (сучасн. селёдка), цівун, якар.*

З фіна-ўгорскіх моў (фінскай, карэльскай, эстонскай, комі) былі запазычаны назвы некаторых рыб, прадметаў быту, сродкаў руху і інш., напр.: *акула, нарты, сані, тундра.*

Былі засвоены таксама некаторыя словы венгерскай, мардоўскай, марыйскай, удмурцкай і іншых моў фіна-ўгорскай групы, напр.: *гуляш, гусар.*1

**Цюркізмы.**

Словы цюркскіх моў пранікалі рознымі шляхамі і ў розныя перыяды гісторыі.

Першы этап інтэнсіўнага пранікнення цюркізмаў у мову ўсходніх славян датычыць перыяду барацьбы з набегамі на паўднёвыя землі качавых цюркскіх плямёнаў (полаўцаў, печанегаў, касогаў і інш.), а потым — перыяду барацьбы супраць татара-мангольскага нашэсця. Да тых часоў адносяцца такія словы, як: *арда, баран, сарафан.*

Другі этап непасрэднага запазычання цюркізмаў прыпадае на XIV—XVI ст.ст. „Тады ўстанавіліся прамыя зносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і татарскімі плямёнамі, што займалі паўднёваўкраінскія стэпы, татары выступалі саюзнікамі Літвы ў вайне з Польшчай і нямецкім Ордэнам. У гэты час на тэрыторыі Беларусі з'явіліся татарскія пасяленні, дзе распаўсюджваліся творы татарска-мусульманскай пісьменнасці, вялася дыпламатычная перапіска літоўскіх князёў з крымскімі ханамі. Усё гэта спрыяла пранікненню цюркізмаў у жывую народную гаворку і пісьменнасць. Так былі запазычаны словы *апанча, кутас* і інш". .2

У пазнейшы час некаторыя словы цюркскага паходжання прыйшлі ў беларускую мову праз:

— рускую мову, напр.: *ізюм, казна, кайма,*

— украінскую мову, напр. *гарбуз, кавун, чумак,*

— польскую мову, напр. *гайдук, табар.*

Сярод цюркізмаў выдзяляюцца наступныя назвы:

— населеных пунктаў і пабудоў: *амбар, аул, мячэць, шалаш, шахцёр, юрта;*

— прадметаў быту: *бязмен, качарга, сундук, тапчан, торба, чамадан, чарка;*

— з'яў прыроды: *буран, туман;*

— раслін і іх пладоў: *айва, гарбуз, ізюм;*

— жывёл, птушак, насякомых: *баран, беркут, таракан, табун;*

— прыладаў і прадметаў працы: *аркан, арчын, капкан;*

— прадметаў быту: *армяк, балахон, башлык, кафтан, сарафан, сярмяга, халат, шаль, шапка;*

— прадуктаў харчавання: *балык, кумыс, халва;*

— грамадска-палітычныя: *ашуг, бай, гайдук;*

— вайсковыя: *арда, атаман, асаул, кінжал;*

— масцей: *буланы, гнеды;*

— рэлігійныя: *імам, каран;*

— экспрэсіўныя: *балван, балда.*3

Характэрныя фанетычныя і марфалагічныя рысы цюркізмаў — гэта:

— паўтарэнне аднаго і таго ж гука ў слове, напр.: *аркан, барабан, кішміш, бурун;*

— суфіксы:

**-ан**: *курган, качан,*
**-ак(-як)**: *армяк, маяк,*
**-ал**: *аксакал,*
**-аш**: *карандаш, шалаш,*
**-ук**: *барсук, гайдук,*
**-ун**: *кавун, табун,*
**-ык**: *башлык, шашлык,*
**-ча**: *парча.*4

----------

1 Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 162.

2 В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская літаратурная мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 55—56.

3. Там жа, с. 56.

4. Там жа, с. 57; Курс..., с. 162.

# КУХОННЫЯ ПЯРАДЫ

## ЯЙКІ З ЦЫБУЛЬНЫМ СОУСАМ

На 5—6 яек трэба ўзяць 3 лыжкі масла ці маргарыну, паўтары лыжкі мукі, 2 шклянкі малака, 2 сярэднія цыбуліны, крыху мускатнага арэха (мушкаталовай галкі), соль, змелены перац, зялёную пасечаную пятрушку, смажаныя кромкі пшанічнага хлеба ці булкі.

1. Лыжку масла растапіць у каструльцы на малым агні, усыпаць пасечаную цыбулю, дадаць лыжачку вады, тушыць на малым агні, пакуль цыбуля не разагрэецца.

2. Рэшту масла растапіць, спалучыць з мукой, смажыць хвіліну на сярэднім агні, а пасля, пастаянна памешваючы, уліваць малако. Давесці да кіпення і варыць мінуты 3—4.

3. Яйкі варыць у кіпячай вадзе мінут 5 (класці яйкі не адразу з халадзільніка, бо палопаюцца). Тады ваду зліць, заліць яйкі халоднай вадой.

4. Сгушаную цыбулю працерці праз сіта ў белы соус (пункт 2), заправіць мускатным арэхам, соллю і перцам, дакладна перамяшаць і накінуць на малым агні.

5. Кромкі хлеба смажыць на разагрэтым тлушчы з абодвух бакоў.

6. Абабраныя яйкі разрэзаць уздоўж напалову, палажыць на талерку, заліць цыбульным соусам, пасыпаць зелянінай, навокал палажыць грэнкі.

Падаваць адразу з салатай.

Прапорцыя для 2—4 асоб.

## ВАРШАЎСКАЯ ЗАПЯКАНКА

На 12 яек трэба ўзяць чвэрць кілаграма капчонага бачку, нарэзанага дробнай костачкай, 45 дэкаў сцертага на тарцы жоўтага вострага сыру, 4 лыжкі масла, 4 плоскія лыжкі мукі, 1 шклянку малака, 2—3 расцертыя зубкі часнаку, 1/4 лыжачкі маярану, 1 лыжку пасечанага кропу, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 3/4 шклянкі сцертай булкі.

1. Зварыць яйкі крутымі, абабраць іх, нарэзаць скрылёчкамі.

2. Бачок падсмажыць на сярэднім агні, каб атрымаліся хрупкія скваркі, адцадзіць іх з тлушчу.

3. Зрабіць белую засмажку з масла і мукі, памешваючы, паступова ўліваць малако, давесці да кіпення, тады зняць з агню, дадаць сыр, заправіць часнаком і зёлкамі, калі трэба, дасаліць па смаку і ўсё добра перамяшаць.

4. У вогнетрывалы посуд, добра змазаны тлушчам ад бачку або маслам, уліць палавіну сырна-часнаковага соусу, на яго палажыць пласт яек, пасыпаць скваркамі, заліць рэштай соусу. Зверху пасыпаць сцертай на тарцы булкай.

5. Уставіць у гарачую духоўку і пячы мінут 30—35.

Падаваць адразу з салатай.

Прапорцыя для 8—10 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**

(З кнігі Кацярыны Пасняшынскай „Якія часы, такая кухня")

****************************************************************

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Прысніліся мне два сны. Пэўна, штосьці кепскае яны прадвяшчаюць і таму непакоюся я вельмі і прашу, разгадай як мага хутчэй.

Першы сон. Дзея адбываецца ў маёй роднай вёсцы. Мы з сяброўкай з працы ідзем у царкву. Увайшлі ў прытвор і я ўзялася адчыняць дзверы. Там ішла служба. Калі я ўзялася адчыняць дзверы, штосьці з грукатам звалілася, аказалася, што было гэта кадзідла. Зараз жа адкрыў дзверы бацюшка і пачаў мяне лаяць за гэта. Я хачу апраўдацца, што я ж хацела адчыніць дзверы, я ж толькі да іх дакранулася, але бацюшка не дапускае мяне да голасу. Не ўвайшлі мы туды, дзе адбывалася служба. Бацюшка гэты даўно ўжо не жыве, а з маладых гадоў аж да канца жыцця ён быў настаяцелем нашага прыхода.

На другую ноч ізноў сніцца, што я ў гэтай жа вёсцы. Іду па вуліцы і бачу, што ў адной хаце пахараны. Ходзяць там людзі. Я пацікавілася, падыйшла да тае хаты, і думаю: „Пахараны, а не відаць пахаронных харугваў?" А быў гэта вечар, цемнавата. Калі я надыйшла бліжэй, бачу: стаяць дзве чорныя харугвы. І думаю, хто ж гэта памёр? На гэтым канец сну.

І яшчэ адзін сон. Нейкая вёска. Стаю я на вуліцы. Незнаёмы панадворак. З хаты выходзіць мой муж. Пахадзіў і вярнуўся назад у хату. Я вельмі здзівілена. Чаму ён там? А нейкая жанчына мне адказвае: „Там ёсць жанчына лёгкіх паводзін і ён з ёю... Ужо каля года гэта цягнецца". І нейкія пахараны ізноў дзесь тут... Дакладна не памятаю.

**Кацярына**

Кацярына! Твае сны на смутак. Царква, дзверы, якія ты не магла адчыніць, кадзідла, што звалілася з грукатам, чорныя харугвы, —усё гэта сведчыць пра нешта кепскае. Можа, нейкая хвароба, так, хутчэй за ўсё можна спадзявацца хваробы ў сям'і (мужа?..)

**АСТРОН**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Не ведаю, ці варта аб гэтым пісаць, бо сумняваюся, што ты зможаш мне дапамагчы. Я, кажуць, нябрыдкая дзяўчына, ды фігура ў мяне някепская. Маю і вышэйшую адукацыю, і бацькоў цалкам заможных. А пры гэтым усім мне ўжо 35 гадоў, і я ніяк не магу выйсці замуж.

У чым справа? Гляджу я вось на сваіх сяброўках — і брыдкія некаторыя, і тоўстыя як каровы, і ў галаве незашмат, — а вось жа павыходзілі замуж, панараджалі дзяцей, і ім цяпер мора па калена. Здаецца мне, што калі б я была мужчынам, то на некаторых з іх нават і не глянула б. Але ж вось ходзяць, задраўшы галаву і спазіраюць на мяне звысока. Мне вельмі прыкра. А часамі дык ад гэтага проста хочацца смяяцца. Божа мой, павыскаквалі за абы-каго і цешацца. За такіх мужоў, як выйшлі яны, я магла б сто разоў выйсці. Але навошта мне абы-хто?! Лепш ужо быць адной, праўда, Сэрцайка?

**Інка**

Мілая Інка! Паняцце адзіноцтва вельмі адноснае. Мо яно і добрае ў маладосці — у сэнсе нейкай незалежнасці. З кім хачу — з тым пайду. Не вымагае абеду ці чыстых кальсонаў муж. Не плачуць дзеці.Бацькі табе наварáць і будуць радасна спазіраць на цябе, як на малое дзіця, калі ты ясі.

Так будзе доўга — пакуль будуць жывыя твае бацькі ды вакол цябе яшчэ будуць круціцца кавалеры. На жаль, у адзін момант чалавек можа зрабіцца стары і самотны. Тады застанецца толькі з зайздрасцю спаглядаць на тых „тоўстых, як каровы" сяброўак, якія ўсё ж цешацца з жыцця, бо бачаць, як падрастаюць іх дзеці, і маюць сатысфакцыю, што не праcвісталі свайго жыцця.

Тваё адзіноцтва, Інка, вынікае, бадай, з цябе самой. Адной мо і лепш,але тады не наракаюць. Табе ўжо кепска, калі ты вырашыла напісаць гэта пісьмо.

Ніхто, на тваю думку, не можа зраўняцца з табой. Усе сяброўкі — брыдкія, тоўстыя, пуста ў іх галовах. Павыходзілі таксама за абы-каго, на якіх ты нават і не глянула б... Такім чынам ніколі не знойдзеш сабе мужа, хоць бы і была б ты прыгожая, як акторка.

Кожны чалавек мае ў сабе пэўную дозу харства. Трэба толькі прыгледзецца да яго. Тоўстая жанчына можа аказацца вельмі абаяльнай, калі прыгледзецца да яе мілай усмешкі. Брыдкіх жанчын, кажуць, наогул няма, а ёсць толькі жанчыны занядбаныя.

Не заўсёды найбольшым поспехам у мужчын карыстаюцца самыя прыгожыя. Найважнейшае, каб у жанчыны была „разынка", нешта такое, што прыцягвае мужчын і адрозніває яе ад іншых. Не чакай каралевіча. Найлепш, каб муж быў скромным, учцівым, працавітым і разумным чалавекам. З надзвычай прыгожым далёка не заедзеш!

**СЭРЦАЙКА**

